*У суполках ТБМ*

# Дзякуем за падтрымку

Ужо колькі месяцаў, як у раёне створана Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Сябрамі Таварыства беларускай мовы, а значыць прыхільнікамі і прапагандыстамі роднага слова, з'яўляюцца на сённяшні дзень 75 чалавек. Гэта настаўнікі, вучні, бібліятэкары, пенсіянеры, выхавальнікі, усе тыя, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, лёс матчынай мовы. Дзейнічаюць таксама першасныя суполкі, як, напрыклад, у дзіцячым садзе № 5. Выхавальнікі актыўна праводзяць работу па прывіццю малым любові да роднага слова, беларускай песні, развучваюць з дзеткамі вершы беларускіх паэтаў, праводзяць гульні, знаёмяць са святамі і абрадамі беларусаў.

Трэба адзначыць, што вялікі ўклад у справу адраджэння ўносяць таксама настаўнікі, бібліятэкары раёна і іншыя. Большасць сяброў ТБМ імкнецца да авалодання моўнай практыкай, значна ўзрос попыт на беларускую кнігу і беларускія перыядычныя выданні.

У выніку мэтанакіраванай работы па адраджэнні нацыянальнай культурна-гістарычнай спадчыны цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма выйшла пераможцай рэспубліканскага агляду-конкурсу «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры».

Сябры ТБМ імя Ф. Скарыны плацяць уступны і гадавы ўзносы. Уступны ўзнос складае 25 рублёў, а гадавы — 1 працэнт ад мінімальнай заработнай платы. Мы ўпэўнены, што сябрамі ТБМ стануць і многія з вас.

Хочацца сказаць шчыры дзякуй тым, хто аказаў раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны матэрыяльную падтрымку. І ў першую чаргу культработніку Г. А. Салтыковіч, народнаму суддзі раёна М. Ц. Лышчанку, загадчыку аддзела культуры А. М. Ананічу, Л. М. і Г. А. Мажайскім, работніку раённага вузла сувязі В. М. Курносаву і іншым. Вядома ж, на першым часе работы ТБМ раёна гэтыя грошы вельмі спатрэбяцца.

Адначасова паведамляем, што раённая арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прыватных асоб.

Наш рахунак 700033 у Аграпрамбанку г. п. Круглае.

Даведкі на тэлефоне 21-702.




## Даніна памяці

У Івацэвіцкім раёне на радзіме Піліпа Пестрака ствараецца музей, які раскажа пра жыццё і творчасць гэтага вядомага беларускага пісьменніка. Ужо сабрана нямала рэдкіх фотаздымкаў 20—50-х гадоў, ліставанне з літаратарамі, асабістыя рэчы. Будучы музей ствараецца землякамі як даніна памяці пісьменніку. Адкрыццё музея прымеркавана да 90-годдзя з дня нараджэння Піліпа Пестрака.

**Адась КРАШЭЎСКІ.**

**У НЕКАТОРЫХ гомельскіх газетах апошнім часам пачаліся нападкі на сяброў Гомельскай кансультатыўнай рады «Адраджэнне». Асабліву актыўнасць у гэтым праяўляе кіраўніцтва абласной ветэранскай арганізацыі. А гэта ўжо пэўная адзнака таго, што рада робіць нейкую карысную для беларусаў справу. Што ж гэта за арганізацыя і чым яна займаецца?**

**Кансультатыўная рада «Адраджэнне» ўтворана рашэннем Гомельскага выканкама ў снежні 1992 года. У яе склад увайшлі прадстаўнікі творчай і тэхнічнай інтэлігенцыі.**

# *Гомель набывае беларускае аблічча*

**Узначаліў раду навуковец Уладзімір Старчанка, яго намеснікам стаў пісьменнік Анатоль Бароўскі. Рада мае на мэце стварэнне спрыяльных умоў для адраджэння і развіцця ў Гомелі беларускай нацыянальнай культуры. Дзеля гэтага распрацавана мадэль нацыянальнай культуры, згодна з якой і вызначаны галоўныя накірункі дзейнасці. Рада зыходзіць з таго, што перадумовай існавання нацыянальнай культуры ёсць нацыянальная свядомасць насельніцтва, што нацыянальная культура як феномен узнікае ў выніку дзейнасці нацыянальна свядомых людзей, і таму адрадзіць беларускую нацыянальную культуру можна толькі праз адраджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў. А зрабіць гэта можна, па-першае, праз вяртанне гістарычнай памяці, па-другое, праз родную мову і, па-трэцяе, праз падтрымку галоўных рысаў беларускага характару, што знайшлі, адлюстраванне ў традыцыях і звычаях народа.**

**Канешне, за даволі кароткі тэрмін існавання, ды ў нашых усім вядомых варунках, не магло быць зроблена шмат, але з дапамогай улад і найперш намесніка гарвыканкама Алеся Зінчука некаторы плён працы ёсць. Так, у гэтым годзе ў Гомелі ўдалося амаль афіцыйна з падключэннем гарадскога аддзела культуры адзначыць 75-я ўгодкі БНР. Даце папярэднічала даволі шырокая рэклама. Для прыкладу, быў падрыхтаваны спецыяльны выпуск газеты «Гомельскія ведамасці», пастаўлена пяць рэкламных тумбаў, у грамадскім транспарце расклеены ўлёткі-паведамленні, у горадзе развешаны транспаранты, на некалькіх тралейбусах размешчаны тэкст — «Беларускай Народнай Рэспубліцы — 75 год». У Гомелі амаль увесь грамадскі транспарт па ініцыятыве саміх вадзіцеляў размаляваны нашымі дзяржаўнымі сімваламі, зрэдку сустрэнеш тралейбус або аўтобус, на якім не намаляваны бел-чырвона-белы сцяг (а то і два-тры) ды выява і герб «Пагоня». Было б вельмі добра, каб яшчэ і беларуская мова загучала ў грамадскім транспарце з вуснаў усіх вадзіцеляў, а не толькі той мужнай сямёркі, што карыстаецца ёю сёння. Між іншым, кантроль за выкананнем Закона аб мовах — яшчэ адзін накірунак дзейнасці кансультатыўнай рады. З гэтай мэтай ажыццяўляюцца рэйды яе сяброў па навучальных установах, установах культуры, гандлю, быту, выклікаецца на сумесныя пасяджэнні структур гарвыканкама і кансультатыўнай рады кіраўніцтва ўстаноў і прадпрыемстваў Гомеля для справаздачы аб ходзе выканання Закона аб мовах. Гэтая праца таксама паступова дае свой плён, і Гомель усё больш вонкава набывае беларускае аблічча. Трэці накірунак — гэта арганізацыя мастацка-асветніцкіх і фальклорных вечарын пад агульнай назвай «Кансультатыўная рада запрашае». Акрамя таго, арганізавы выпуск газеты ў газеце «Наша думка», некалькі нумароў якой ужо ўбачылі свет, робіцца шмат іншых захадаў. Уся гэтая дзейнасць дазволіла радзе набыць які-ніякі аўтарытэт у свядомых беларусаў, аб чым сведчыць тое, што на сённяшні дзень рада мае пастаянных прадстаўнікоў ад ТБМ імя Ф. Скарыны, ЗБС «Бацькаўшчына», НДПБ і інш.**

**Канешне, дзейнасць кансультатыўнай рады «Адраджэнне»— гэта не трыумфальнае шэсце, а, хутчэй, горкі шлях першапраходцаў, што можа сем разоў памыліцца, перш чым знойдзе правільны накірунак, але спадзяюся, што як становіцца, так і адмоўны вопыт яе працы дапаможа беларускай справе ў іншых мясцінах Беларусі.**

А. САЛАДОЎНІКАЎ,
сябра ТБМ імя Ф. Скарыны.
г. Гомель.

*Меркаванні*

*Анатоль БЕЛЫ, старшыня клуба «Спадчына», сябра Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны.*

# Праблемы мовы — праблемы палітычныя

Ці хто-небудзь бачыў на працягу апошніх двух гадоў у нашым друку артыкулы супраць рэлігіі, таго «опіуму для народа», пра які так настойліва бубніла камуністычная ідэалогія і з якой яна вяла такую зацятую барацьбу? Спадзяёмся, што і не ўбачыце. Нашым тэарэтыкам варта было б разабрацца ў гэтай незвычайнай з'яве: хуткім прымірэнні двух раней непрымірымых і нават варожых ідэалогій.

А вось па праблемах мовы, якія раней і не паўставалі, адбылося адваротнае, вакол іх разгарнуліся цяпер самыя вострыя тэарэтычныя і палітычныя спрэчкі. Чаму камуністы не захацелі паразумецца з нацыяналамі? Чаму праблема мовы, якая ў звыклых палітычных умовах з'яўляецца праблемай даволі абстрактнай, культуралагічнай і далёкай ад праблем эканомікі, набывае ў нашай краіне такую вастрыню?

Праблема мовы выходзіць на больш глабальныя праблемы, якія баяцца яшчэ адкрыта кранаць паслядоўнікі бальшавізму, каб поўнасцю не дыскрэдытаваць сябе. Гэта праблема нацыянальнай незалежнасці і суверэнітэту, праблема выхаду з каланіяльнай сістэмы і, урэшце, гэта праблема выхавання нацыянальна свядомых людзей, патрыётаў Бацькаўшчыны. Партыйная наменклатура добра разумее: калі насельніцтва Беларусі ператворыцца ў свядомую нацыю, адродзіць сваю мову, культуру, пазнае сваю гісторыю, а беларускія спрадвечныя сімвалы сапраўды паслужаць аб'яднанню народа, то панаванню яе прыйдзе канец. Вось чаму яна распачала тую шалёную атаку на самае святое, што належыць усёй нацыі. Партыйная наменклатура пераканалася, што панаваць можна і без Леніна і нават без ідэалогіі, што можна памеркавацца з царквою, што можна не кранаць пытанняў пра пабудову «светлай будучыні», а вось панаваць у нацыянальна свядомым грамадстве ёй немагчыма.

Толькі страх, што праз мову, праз сваё адраджэнне, праз вяртанне нацыянальных сімвалаў і святыняў народ урэшце ўсвядоміць сваё нацыянальнае і сацыяльнае становішча, сваю прыніжанасць, адчуе горкую страту сваёй годнасці і ўрэшце аб'яднаецца, прымушае гэтых людзей насуперак іх нацыянальнаму пачуванню весці барацьбу супраць сваёй жа роднай мовы. Я не кажу тут пра людзей, падманутых антынацыянальнай прапагандай. Я маю на ўвазе свядомых беларусафобаў на чале са старшынёй Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, які спачатку абяцаў да адпаведнага тэрміну вывучыць беларускую мову і пачаць размаўляць на ёй, а зусім нядаўна заявіў, што ён не дапусціць, каб дзеці былі пазбаўлены магчымасці вучыцца на расійскай мове.

Ці не з'яўляецца гэта адлюстраваннем абсурднасці ўсяго нашага жыцця, поўным развалам духоўнасці былых і сучасных дзяржаўных кіраўнікоў? Яны заклікаюць нас да памяркоўнасці, да талерантнасці, а самі нахабна ідуць на адкрытую канфрантацыю, на адкрытае процістаянне і раскол грамадства. Няўжо яны лічаць нас дурнямі і разлічваюць, што іхнія хітрыкі застануцца незаўважанымі? Мяркую, што гэта не так. Тут адчуваецца прыхаванае, але больш страшная пружына іх дзеянняў. Хачу звярнуць увагу, што беларуская партакратыя хапаецца за праблему двухмоўя менавіта ў такія моманты, калі пачынае адчуваць сябе няўтульна, калі пачынае адчуваць пагрозу паражэння. Прыкладам, агульнае паражэнне партбюракратыі на ўсерасійскім рэферэндуме выклікала шалёны наступ камуністаў на першамайскім свяце ў Маскве. Адпаведна адгукнулася і ў Менску: у Вярхоўным Савеце ўзнялі праблему двухмоўя і загаварылі пра рэферэндум па гэтым пытанні. І ўсё гэта робіцца для адной мэты — распальванне варожасці ў грамадстве, спроба справакаваць яго да грамадзянскай вайны. А грамадзянскую вайну бальшавікі могуць весці і нават перамагаць у ёй. Але адкрыта заявіць аб гэтым пакуль не хапае мужнасці. Ды Беларусь не тая краіна, мы не той народ, у нас іншы менталітэт, у нас няма жадання перамагаць у грамадзянскай бойцы. Таму і пачынаюць уцягваць Беларусь у ваенныя саюзы замест таго, каб заняцца дзяржаўным будаўніцтвам, эканомікай, сацыяльнымі праблемамі. І сапраўды, чаму кіраўнікоў Беларусі не хвалююць эканамічныя праблемы? Можа, таму, што яны не маюць сапраўдных праграм выхаду з крызіснага становішча. А можа, таму, што ўсе зразумелі: яшчэ дзесяцігоддзе нам не выбрацца з такога крызіснага стану. Ёсць, верагодна, і іншыя прычыны, прыкладам, нежаданне, а то і боязь выкрываць сапраўдны стан эканамічнага заняпаду краіны, праблемы «прыхватызацыі» і беспакаральнага крадзяжу народнай і дзяржаўнай маёмасці. А таму хапаюцца за мову. Яна ж стала галоўным аб'ектам ідэалагічнай барацьбы, і невыпадкова рэзка размежаваліся два непрымірымыя лагеры. Тыя, хто змагаецца за новую Беларусь, за шчаслівую будучыню нашага народа, сталі пад «Пагоняю» і бел-чырвона-белы сцяг, гавораць на роднай мове. Тыя ж, хто хоча, каб усё заставалася, як і раней, аб'ядноўваюцца пад чырвоным сцягам і гавораць на «великом и могучем».

Процістаянне працягваецца.

# Генадзь Цыхун: Мову нельга даследаваць толькі знутры

*(Гутарка з загадчыкам аддзела Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі доктарам філалагічных навук Г. А. Цыхуном)*



**— Генадзь Апанасавіч, з чаго пачынаўся Ваш творчы шлях у мовазнаўства?**

— У 1953 годзе паступіў на славянскае аддзяленне Ленінградскага універсітэта. Мая асноўная спецыяльнасць — балгарская мова. Вывучаў таксама і іншыя славянскія мовы. Праз нейкі час пасля заканчэння універсітэта паступіў у аспірантуру. Быў на стажыроўцы ў Балгарыі, адкуль вярнуўся ў Менск. Пасля абараніў кандыдацкую дысертацыю па балгарскай і македонскай мовах. Пачынаючы з 1963 года працую ў інстытуце ў аддзеле славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства. У 1982 годзе ў Менску абараніў доктарскую дысертацыю.

**— Паколькі профіль Вашага аддзела— славянскае і тэарэтычнае мовазнаўства, то хацелася б даведацца, як даследуецца беларуская мова на фоне іншых славянскіх моў?**

— Можна выдзеліць некалькі асноўных накірункаў у нашай рабоце. Па-першае, вывучаем паходжанне беларускай мовы разам з іншымі славянскімі мовамі і даследуем, якое ж месца сярод іх яна займае. Другі накірунак — тыпалагічнае вывучэнне беларускай мовы, г.зн. падабенства беларускай мовы ў яе ўнутранай структуры, асаблівасцях да іншых славянскіх моў. Выяўленне старажытных, тэрытарыяльна-суседскіх сувязей моўных продкаў беларусаў у межах праславянскай моўнай прасторы таксама займае немалаважнае месца ў рабоце аддзела. Калі весці гутарку пра больш канкрэтныя справы, то мы выдалі ўжо сем тамоў «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы». У ім надаецца належная ўвага генетычнаму падыходу да высвятлення паходжання нашай лексікі на фоне лексікі іншых моў. Цяпер ідзе праца над стварэннем аднатомнага этымалагічнага слоўніка беларускай мовы, дзе асноўная ўвага канцэнтруецца на паходжанні слоў, што ўжываюцца ў мастацкай літаратуры.

**— Вядома, што цяпер з-за недахопу фінансавых сродкаў паўсюдна адбываюцца скарачэнні службовых пасад. Ці не закранула гэта нейкім чынам і Ваш аддзел?**

— На маю думку, каб грунтоўна праводзіць вывучэнне беларускай мовы на фоне іншых моў, неабходна, каб у аддзеле працавалі прадстаўнікі па кожнай славянскай мове. Быў момант, калі мы ўжо амаль дасягнулі такога становішча, але ў выніку фінансавых цяжкасцей у аддзеле адбыліся скарачэнні пасад. Так быў звольнены з працы выдатны паланіст Вячаслаў Вярэніч, нягледзячы на тое, што беларуска-польская праблематыка вельмі важная і сур'ёзная. Мы фактычна пазбавіліся адзінага спецыяліста, які займаўся гэтай праблемай. Сітуацыя складаная, паколькі мы амаль адзіная славянская краіна, якая не рыхтуе свае кадры па славістыцы.

**— Ці не вядуцца размовы, каб адкрыць аддзяленне славістыкі ў БДУ?**

— Ёсць такія прапановы. Славістыка — гэта не пабочная дысцыпліна. Яна павінна развівацца ў кожнай славянскай краіне. Мову, у нашым выпадку беларускую, нельга даследаваць толькі знутры. Яна павінна даследавацца таксама і звонку.

**— Вядома, што на пачатку верасня ў Браціславе мае адбыцца XI Міжнародны з'езд славістаў, у якім возьме чынны ўдзел і наша беларуская дэлегацыя.**

— Пачынаючы з 1929 года адзін раз у 5 гадоў адбываюцца міжнародныя з'езды славістаў. У большасці такіх з'ездаў удзельнічалі і беларускія славісты. Праўда, у II з'ездзе, які адбыўся ў 1934 годзе ў Варшаве, узялі ўдзел толькі віленскія беларусы. У 1939 годзе III з'езд у Бялградзе не адбыўся, паколькі пачалася вайна. Былі апублікаваны толькі даклады. Пачынаючы з 1958 года, беларускія вучоныя прымаюць актыўны ўдзел у рабоце з'ездаў. На гэтым з'ездзе наша дэлегацыя будзе ў складзе 15 чалавек.

**— Тэмы дакладаў, відавочна, маюць адносіны да беларускай мовы, гісторыі...**

— Тэмы дакладаў самыя розныя: «Беларускае вяселле і яго адносіны да заходнеславянскага вяселля: польскага, сербалужыцкага, славацкага, чэшскага. Абрад, паэзія, мова», «Беларускае адраджэнне ў пачатку XX стагоддзя. Гістарычныя асаблівасці працэсу ўзаемаадносін з іншымі народамі», «Узнікненне феадальных дзяржаў беларусаў у працэсе ўтварэння дзяржаў славян», «Беларуская культура барока як пасрэдніцтва між заходнеславянскімі і ўсходнеславянскімі светамі» ...

**— Ваш даклад «Арэальныя аспекты фарміравання славянскіх літаратурных моў» прагучыць на з'ездзе. У чым яго сутнасць?**

— Асноўная частка даклада ўключае вынікі даследаванняў беларускай літаратурнай мовы ў параўнанні з балгарскай і славацкай. Гутарка ідзе не пра дыялектную, а пра арэальную аснову літаратурнай мовы. Гаворкі, якія існуюць побач, узаемадзейнічаючы, утвараюць кансалідуючую базу. У выніку ўзнікаюць нейкія новыя рысы, якія распаўсюджваюцца і накладваюцца на пэўнай тэрыторыі, такім чынам утвараючы арэальнае ядро гэтай моўнай тэрыторыі. Я даказваю, што гэтае арэальнае ядро, ці арэальная аснова, літаратурнай мовы, як яе кадыфікаваў Тарашкевіч, лакалізавалася бліжэй да Вільні. У далейшым адбывалася пашырэнне гэтай арэальнай базы, і яна паступова перамяшчалася ў бок Менска. Напрыклад, у Тарашкевіча было вельмі складанае правіла якання, якое ў 30-я гады спрошчана. Калі мы паспрабуем знайсці дыялекты, дзе такое правіла дзейнічае актыўна, то гэта будзе бліжэй да ваколіц Менска. Такім чынам, адбылося пашырэнне арэальнай базы беларускай літаратурнай мовы. Яно мае як станоўчыя, так і адмоўныя бакі. Пры такім пашырэнні можа парушацца сістэмнасць літаратурнай мовы. Дзе арэальная база вузкая, то там усё дапасавана. Калі мы бяром пэўную рысу з адной, а іншую з другой гаворкі, то гэта яшчэ не значыць, што яны ўзаемадзейнічаюць. У літаратурнай мове ўтвараецца пэўнае напружанне, якое можа прыводзіць да непажаданых вынікаў — утварэння дзвюх літаратурных моў ці двух варыянтаў літаратурных моў. Я правёў шмат такіх даследаванняў, як гэта адбывалася ў беларускай мове ў параўнанні з іншымі славянскімі мовамі.

**— Такое яшчэ пытанне, Генадзь Апанасавіч. Вы ўзначальваеце камісію па ўдасканаленні беларускага правапісу ТБМ імя Ф. Скарыны. Якія вынікі Вашай працы?**

— Камісія працавала і працуе даволі інтэнсіўна. Адбылося 25 пасяджэнняў. Мы разгледзелі ўсю правапісную праблематыку, усе правілы і г.д. Прыйшлі да высновы, што цяпер існуюць аб'ектыўна, хочам мы гэтага ці не хочам, дзве правапісныя традыцыі, і права на сваё існаванне мае як адна, так і другая. Але, на маю думку, існаванне двух варыянтаў не на карысць беларускай мове. У свеце існуе шмат моў, дзе ёсць дзве літаратурныя мовы. Нельга сказаць, што гэта станоўчая з'ява, але загадамі і дэкрэтамі тут нічога адразу паправіць нельга. З гэтага пункту погляду мы прытрымліваемся так званай кампраміснай пазіцыі: паступовага збліжэння двух варыянтаў правапісу. Але трэба імкнуцца не дапусціць утварэння дзвюх літаратурных моў. Для беларускай мовы гэта было б трагічна. Мы прапануем пайсці на збліжэнне двух варыянтаў правапісу, дапушчэнне некаторых асаблівасцей, якія лагічна і навукова абгрунтаваныя, унясенне пэўных змен у існуючы афіцыйны правапіс.

Гутарыла
Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.

# Светапогляд — рухавік гісторыі

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

**На пытанні, якія ўзніклі, можна было знайсці адказ у выступленні Юрыя Хадыкі. Ён лічыць, што ў аснове геапалітычных памкненняў кожнай нацыі ляжыць пэўны светапогляд. Той, які заважыў на палітыцы дзяржаў нашага рэгіёна, пачаў складвацца адначасова з развіццём хрысціянства. З цягам часу яно падзялілася на дзве галіны. Спадар Хадыка растлумачыў розніцу паміж усходнім хрысціянствам, якое называюць праваслаўем, і каталіцызмам. Заходняя царква, паслядоўна рэалізуючы канцэпцыю аб яднанні ў асобе Хрыста боскага і чалавечага, лічыць сваёй важнай сацыяльнай задачай сацыяльную перабудову грамадства, у якім яна дзейнічае. У той час, як усходняя царква абмяжоўвае свае мэты толькі духоўным удасканаленнем светапогляду чалавека, а сферу грамадскага жыцця пакідае выключна старой паганскай, імперскай традыцыі. Імперскае мысленне стала галоўным у палітыцы маскоўскіх цароў і князёў. А праваслаўныя традыцыі і ў наш час уплываюць на палітыку Расіі.**

**У сваім выступленні Алег Трусаў зазначыў, што трэба адрозніваць імперскую геапалітыку ад той, калі дзяржава змагаецца за захаванне межаў свайго этнасу, за сваю этнічную тэрыторыю. Штуршком для развіцця расійскай імперскай геапалітыкі, лічыць А. Трусаў, стала спалучэнне хрысціянскай ідэі з імперскім мысленнем, імперскай ідэяй.**

**Спадар А. Трусаў не пагадзіўся з песімістычнай ацэнкай дачыненняў Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай. Яна даволі хутка расправілася з суседнімі незалежнымі дзяржавамі — Казанскім і Астраханскім ханствамі, з Ноўгарадскім княствам. А дзяржаву нашых продкаў Масковія не магла адолець трыста гадоў. У заключэнне спадар А. Трусаў пажадаў перавесці канферэнцыю ў дыскусійны клуб і за «круглы стол» запрасіць сяброў іншых партый, журналістаў.**

**Але і на канферэнцыі адбылася гарачая дыскусія пра прычыны заняпаду ВКЛ, пра ролю ў гэтым так званых «шляхецкіх вольнасцей», пра ментальнасць беларусаў, якая складвалася на аснове хрысціянскіх вартасцяў і пашанаванні чалавека і яго асабістай свабоды. Якраз менавіта такія вартасці робіць прыярытэтнымі ў сваёй праграме Беларускі народны фронт.**

**Удзельнікі канферэнцыі пагадзіліся з меркаваннем, што без геапалітычнай канцэпцыі, без дзяржаўнай мэты Беларусь як незалежная рэспубліка не можа існаваць.**

**З. СІЦЬКО.**

# Кніга А. Цвікевіча — па заказу ТБМ

«Западно-руссизм»

Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.

У выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшла з друку па заказу Таварыства беларускай мовы кніга Аляксандра Цвікевіча «Западно-руссизм» (Нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.).

Увазе чытачоў прапануецца глыбокае, шмат у чым і сёння неперавўзыдзеннае даследаванне выдатнага навукоўцы, былога старшыні ўрада БНР пра ідэалогію і практыку русіфікатарства беларусаў у часы Расійскай імперыі.

Адразу пасля друкавання ў 1929 г. 3-тысячны наклад кнігі быў знішчаны. Да сённяшняга дня цудам захаваліся адзінкавыя экземпляры з ліку тых, што паспеў узяць і схаваць аўтар. Новае выданне зроблена з паасобніка, які належыць Міколу Купаве. Кніга, безумоўна, карысная для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі. Тыраж, на жаль, невялікі — 5 тысяч паасобнікаў. Кніга перш за ўсё з'явіцца ў продажу ў кіёсках ТБМ (Менск, пр. Скарыны, 18; аўтастанцыя ў мікрараёне «Шабаны»). У далейшым — у кнігарнях «Белкнігі» і другіх гандлёвых арганізацый.

Тэлефон для даведак: 33-25-11.

**В. АНТОНАЎ.**

Вучымся!

# Хто дзяцей мае, хай навучае

Тое, што мы цяпер называем вуснай народнай творчасцю, калісьці было надзённым і штодзённым падручнікам, паводле якога вучылі і вучыліся мудрасці, набіраліся розуму. Хаця для «навукі» ўжывалі і нешта іншае, што адлюстравалася ў прыказцы «Тонкая бярозка, ды розуму вучыць», але перавражала вобразнае слова з казак, песень, калыханак, прымавак і прыказак, загадак. Яно не толькі вучыла спраўна карыстацца роднай мовай, каб можна было паразумецца з людзьмі, а і развівала «дар слова» ў дзіцяці.

К. Д. Ушынскі адзначаў, што для таго, каб навучыць дзіця роднай мове, неабходна навучыць яго карыстацца лепшымі яе формамі, выпрацаванымі «як народам, так і літаратурай». Памятайце, што менавіта ў фальклоры ёсць шмат унікальнага паэтычнага матэрыялу, які нібы спецыяльна прызначаны для таго, каб развіваць у дзіцяці эстэтычна-мастацкае пачуццё.

Але не менш важна яшчэ адна цудоўная ўласцівасць фальклору. Яшчэ ў калысцы ад матчынай мілагучнай і пяшчотнай песні маленькі чалавек знаёміцца з добрым навакольным светам Бацькаўшчыны, з чалавечымі да яго адносінамі і пачуццямі. Простыя, на першы погляд, словы:

— Люляй, люляй, мой
сыночак,
Хто це будзе калыхаці?
— Будзе веяць буйны вецер,
То той мяне пакалыша.
— Люляй, люляй, мой
сыночак,
Хто це будзе есці даваці?
— Будзе ляцець да
пчоланька,
Прынясе яна мне мёду.
— Люляй, люляй, мой
сыночак,
Хто це будзе піць даваці?
— Будзе ісці дробны
дожджык,
То той жа мяне напоіць.

Які цудоўны змест у гэтай мацярынскай песні! Увесь акаляючы свет клапоціцца пра маленькае дзіця. А якімі прыгожымі словамі пра гэта расказваецца: «буйны ветрык пакалыша», «пчоланька прынясе мёду», «дробны дожджык напоіць». Вось дзе сапраўдныя ўзоры роднай мовы, вось дзе яе багацце, прастата, трапнасць, вобразнасць.

Калі дзіця слухае такія цудоўныя песні ды іншыя шэдэўры вуснапаэтычнай творчасці, яно не толькі чуе родную мову, але і заўважае і запамінае яе вобразныя сродкі. Тут і прыгожыя мастацкія азначэнні, і памяншальна-ласкальныя суфіксы, і метафарычныя параўнанні, і трапныя фразеалагізмы.

А ці толькі забаўка, каб закалыхаць дзіцятка, словы гэтай калыханкі?

Ой, бычок, мой бысенька,
Залатая лысінка,
Бадучыя рогі,
Тупучыя ногі,
Ты паціхеньку хадзі
І дзіцятка не будзі.

Але ні адзін з фальклорных жанраў так добра не развівае мастацка-вобразнае мысленне, як загадка. Праз загадкі маленькія дзеці знаёмяцца з прыгажосцю мастацкага слова, якое дакладна характарызуе прыкмету, якасць або рысу прадмета. Якое паэтычнае светаўспрыманне трэба мець дзіцяці, каб у загадцы «Чырвоная птушка сярод хмарак лятае» ўбачыць сонейка! У гэтых маленькіх творах захавана высокая мастацкасць, якая дапамагае дзіцяці ўбачыць свет у маляўнічых фарбах і робіць яго мову вобразнай.

Навучаючы дзетак пазнаваць навакольны свет, не забудзьце пра прыказкі і прымаўкі. Яны і павучаюць, як сябе павінен паводзіць маленькі чалавек, і даюць канкрэтнае, простае і лёгкае для запамінання спалучэнне слоў, гатовы сказ, гатовы ўзор для ўпадаблення, як, прыкладам, такое трапнае параўнанне: «Зімовы дзянёк, што камароў насок».

Усе гэтыя лепшыя ўзоры народнай словатворчасці і лепшыя ўласцівасці нашай мовы — яе музыкальнасць, паэтычнасць натуральна спалучаюцца ў дзіцячых гульнях з патрэбай дзяцей бегаць і скакаць. Але гэта ўжо тэма для іншай гутаркі.

Дзіна ДУБІНІНА.

# Любім мудрасць?

Група выкладчыкаў Менскага дзяржаўнага педінстытута на чале з навуковым рэдактарам прафесарам В. М. Шкурко напісала курс лекцый у адпаведнасці з вучэбнай праграмай «Філасофія». Курс напісаны на беларускай мове паводле матэрыялу пра ўзнікненне і станаўленне філасофскай думкі на Беларусі і прызначаны для студэнтаў ВНУ і выкладчыкаў прадмета «Чалавек і грамадства» ў школе.

Важнае месца ў кнізе адводзіцца духоўнаму жыццю нашага грамадства. Яно, як мяркуюць аўтары Р. Бліхарж, Л. Краўчанка, М. Мартынаў, уключае: духоўную вытворчасць, духоўныя зносіны, грамадскую свядомасць.

Духоўная вытворчасць складае дзейнасць людзей у працэсе пазнання прыроды і грамадства, фарміруе ўяўленні аб свеце, веды, ідэалы і тэорыі. Яна ажыццяўляецца вучонымі, ідэолагамі, мастакамі, літаратарамі, журналістамі, якія ствараюць духоўныя каштоўнасці — навуковыя даследаванні, творы мастацтва і г. д.

Духоўныя зносіны — гэта дзейнасць людзей, якія пераймаюць вопыт, распаўсюджваюць веды (адукацыя), займаюцца выхаваннем падрастаючага пакалення. Сродкамі духоўных зносін выступаюць: мова, міміка, пісьменнасць, сродкі масавай інфармацыі (друк, радыё, тэлебачанне). Першае месца сярод сродкаў належыць нацыянальнай мове. Яна ў першую чаргу фарміруе індывідуальную і грамадскую свядомасць людзей.

Вось чаму ненавісніку беларускага народа, ворагі дзяржаўнай незалежнасці Беларусі абрынуліся на асноўную духоўную каштоўнасць беларусаў — мову. Без нацыянальнай мовы няма грамадскай нацыянальнай свядомасці.

Аўтары дэталёва разглядаюць паняцце «грамадская свядомасць». На нашу думку, яны слушна сцвярджаюць, што грамадская свядомасць з'яўляецца прадуктам духоўнай дзейнасці, яна не існуе незалежна ад індывідуальнай свядомасці. Індывідуальная свядомасць чалавека — гэта яго духоўны свет, які пастаянна развіваецца, узбагачаецца і ўключае ў сабе пачуцці, ідэалы, інтарэсы, погляды і тэорыі.

Аўтары падрабязна разглядаюць структуру грамадскай свядомасці, узнікненне і развіццё асноўных яе форм, змест дзейнасці па развіцці нацыянальнай свядомасці і ролю нацыянальнай мовы ў гэтым працэсе.

Значнае месца ў працы адводзіцца праблемам «Грамадскі прагрэс і глабальныя праблемы сучаснасці», «Культура і цывілізацыя».

У дапаможніку даказваецца, што зараджэнне грамадска-палітычнай, эстэтычнай і філасофскай думкі на Беларусі адносіцца да перыяду VI—IX стст. і звязана з утварэннем беларускай дзяржаўнасці. Першапачатковае адлюстраванне яна знаходзіла ў прыказках і прымаўках, песнях і абрадавых гімнах, казках і паданнях. У X—XI стст. з'яўляюцца першыя літаратурныя помнікі, так званыя «фларыгеліі», зборнікі фрагментаў, куды ўваходзілі думкі антычных філосафаў, ідэі гуманізму, пытанні этыкі, эстэтыкі і псіхалогіі і г. д.

Вучоныя разглядаюць развіццё думкі, ідэй гуманізму, вольнадумства, пералічваюць імёны беларускіх філасофаў і мысліцеляў.

Аўтары курса лекцый па філасофіі пераканаўча даказалі, што не маюць рацыі тыя выкладчыкі і вучоныя, якія з настойлівасцю, вартай лепшага выкарыстання, сцвярджалі: нельга выкладаць філасофію на беларускай мове. У беларускай мове, маўляў, слоў мала, каб раскрыць змест прадмета, беларуская нацыя не мела і не можа мець сваёй філасофіі і нацыянальнай ідэі з-за адсталасці і адсутнасці старадаўніх каранёў.

Дрэнна, калі асобныя выкладчыкі, як краты, не хочуць бачыць сонца, не хочуць бачыць, што існуе народ беларусы са сваёй мовай, культурай, філасофіяй.

Леанід ЦЫГАНКОЎ.

*Культура мовы*

# Ступеняў ці ступеней?

Як вядома, назоўнікі ўсіх трох скланенняў у формах множнага ліку маюць у сучаснай беларускай мове аднолькавыя канчаткі.

Параўнаем паводле склонаў:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Назоўны: | *рамы* | *сады* | *палі* | *рэчы* |
| Родны: | *рамаў* | *садоў* | *палёў* | *рэчаў* |
| Давальны: | *рамам* | *садам* | *палям* | *рэчам* |

Вінавальны: як і ў назоўным (адушаўлёныя назоўнікі — як у родным склоне)

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Творны: | *рамамі* | *садамі* | *палямі* | *рэчамі* |
| Месны: | *у рамах* | *у садах* | *у палях* | *у рэчах* |

Праўда, формы роднага склону яшчэ захоўваюць некаторыя адметнасці па скланеннях. Але і тут ідзе выраўніванне за кошт абагульнення канчаткаў роднага склону множнага ліку ў назоўнікаў: пад націскам *-оў* ды ненаціскных *-аў* (пасля асновы на цвёрды зычны) і *-яў* (пасля мяккай асновы).

Нашыя сучасныя граматыкі і слоўнікі стрымліваюць гэты працэс, займаючы неакрэсленую пазіцыю: яны падаюць у формах назоўнікаў роднага склону множнага ліку трэцяга скланення то агульны канчатак *-аў (-яў, -оў)*, то *-ей*. Прааналізуем акадэмічныя і універсітэцкія выданні 1987 года. «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнталогія. Словазмяненне» (Мінск, БелСЭ, 1987) нярэдка падае гэтыя словы з двума канчаткамі, звычайна аддаючы перавагу словаформам на *-ей*. Так, тут бачым: *граней* і *граняў* (с. 186), *сенажацей* і *сенажацяў* (с. 732), *ступеней* і *ступеняў* (с. 768) і г. д. Праўда, у некаторых выпадках бачым толькі адзін канчатак, затое ў адных словах *-ей*, у іншых *-яў*: *восей*, але *восяў* (с. 140) і інш. У «Слоўніку цяжкасцей беларускай мовы» (Мінск, «Вышэйшая школа», 1987) шэраг гэтых назоўнікаў мае ўжо іншую кваліфікацыю. Да прыкладу, слова *печ* тут падаецца толькі з канчаткам *-аў*, а словаформа *пячэй* кваліфікуецца як памылковая — на старонцы 138-ай чытаем: «*печ*, Т.*печчу*, Р. мн. *печаў* (не *пячэй*)». А ў ранейшым даведніку — «Слоўніку беларускай мовы» (с. 594) — слова *печ* падаецца з двума канчаткамі: *пячэй* і *печаў*. І гэта пры тым самым рэдактары абодвух слоўнікаў і таго самага часу выдання!

У навучальным дапаможніку для студэнтаў філалагічных факультэтаў універсітэтаў «Сучасная беларуская мова. Марфаналогія» (Мінск, Універсітэцкае, 1987) на старонцы 72-ой сцвярджаецца, што канчатак *-аў (-яў)* «трэба лічыць асноўным у словах *даляў*, *зданяў*, *напасцяў*, *трэляў* і некаторых іншых». Але ж у згаданым «Слоўніку беларускай мовы» асноўным лічыцца тут канчатак *-ей*, а *-яў* — толькі варыянтавым; тут бачым *далей* і *даляў*, *зданей* і *зданяў*, *трэлей* і *трэляў*. Дарэчы, у складаных выпадках гэты слоўнік зусім не паказвае словаформаў роднага склону множнага ліку, а толькі творнага, хоць апошнія і не выклікаюць цяжкасцяў (гэта бачым пры словах *высь*, *напасць* і іншых).

Вось такую непаслядоўнасць, блытаніну падаюць даведнікі. І гэта, відаць, не выпадкова. Аўтарам і рэдактарам не дазвалялася (ці ссамім не хацелася) адхіляцца ад магістральнага шляху зліцця моваў.

Канчатак *-ей* уласцівы рускай мове (*ролей, артелей, автомобилей, ножей*). У беларускай мове ён і падтрымліваецца рускамоўнай экспансіяй. У навучальным дапаможніку для універсітэцкіх студэнтаў, пра які тут ішла размова, у раздзеле пра словазмяненне назоўнікаў нагадваецца пра гэта. На старонцы 71-ай чытаем: «У апошнія дзесяцігоддзі тут заўважаецца некаторы ўплыў рускай мовы». Дарэчы тут будзе нагадаць, што ў дваццатыя гады вядомы беларускі мовазнавец Пятро Бузук пісаў у формах роднага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду (як першага, так і трэцяга скланення) літару *я* (а не *е*), разумеючы, што не пад націскам у гэтых формах не можа быць *е* (параўнайце: *песня*, Т. *песняй*; *роля*, Т. *роляй*). У яго тагачасных працах бачым: «*тых сенажацяй, гэтых даляй*». У наш час тут стаў выкарыстоўвацца з той самай галоснай літарай канчатак *-яў* — пад уплывам словаформаў назоўнікаў першага і другога скланенняў (*мужчынаў, дахаў, дамоў, стужаў, межаў, фарбаў*). У словах з цвёрдаю асновай у родным склоне множнага ліку назоўнікаў трэцяга скланення бачым канчатак *-аў* (не *-эй*) як рэгулярны: *рэчаў, печаў* і пад.

Сёння, калі адраджаецца наша культура, наша мова, беларускія аўтарытэтныя выданні амаль усюды ў формах роднага склону множнага ліку назоўнікаў трэцяга скланення выкарыстоўваюць канчатак *-аў (-яў)*. І гэта апраўдана: ідзе натуральны працэс удасканалення граматычнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы пад уплывам жывой народнагутарковай мовы.

Дарэчы, выкарыстанне канчатка *-аў(-яў)* на месцы *-ей* дазваляе разам з тым размежаваць формы назоўнікаў і прыслоўі. Параўнаем: *гэтых даляў* і *ішоў далей*, *нудных боляў* і *сказаў болей дакладна*, *высокіх гораў* і *адчуваў сябе горай (горш)* і пад.

Дык ці не пара і нашым афіцыйным даведнікам замацаваць гэтую заканамернасць беларускай нацыянальнай мовы. Час патрабуе гэтага.

Павел СЦЯЦКО.

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

*Працяг. Пачатак у №№ 24—36.*

## Што такое паны-рада?

Паны-рада — гэта найвышэйшы орган дзяржаўнага кіравання Вялікага Княства Літоўскага, які вырашаў галоўныя пытанні ўнутранай і замежнай палітыкі гаспадарства, адыгрываў значную ролю ў абранні вялікага князя, абароне дзяржавы, падрыхтоўцы законапраектаў.

У склад Рады ўваходзілі: *ваяводы* (кіраўнікі адміністрацыі тэрытарыяльных адзінак — ваяводстваў), *кашталяны* (каменданты замкаў і адначасова адміністратары зямельных уладанняў вялікага князя), *маршалак земскі* (старшыня на паседжаннях Рады і Сойму), *маршалак дворны* (начальнік шляхты, што служыла пры двары вялікага князя), *найвышэйшы гетман* (галоўны начальнік узброеных сілаў), *канцлер* (кіраўнік дзяржаўнай канцыляры), *земскі падскарбі* (міністр фінансаў).

Сярод радных паноў былі магнаты са знакамітых велікакняскіх родаў — Радзівілаў, Сапегаў, Хадкевічаў, Гаштаўтаў, Храптовічаў, Глінскіх, Глябовічаў, Гальшанскіх, Забярэзінскіх, Іллінічаў, Кязгайлаў, Кішак, Няміраў, Осцікаў, Астрожскіх, Пацаў, Солтанаў, Бавіцінавічаў.

З канца XV стагоддзя роля Рады ў агульнадзяржаўным жыцці ўсё больш узрастала — з дарадчага органа пры гаспадары яна паступова ператварылася ў самастойны орган улады. Аб'яднаўшы свае намаганні, паны-рада з часам дамагліся абмежавання ўлады вялікага князя. Так, у 1492 годзе вялікі князь Аляксандр мусіў выдаць прывілей, які істотна абмежаваў ягоныя правы як ва ўнутраных, так і ў замежных справах: прынцыповыя пытанні дзяржаўнай палітыкі ён не меў права развязваць без згоды Рады.

На працягу ўсяго часу свайго існавання Рада мела выключна важнае значэнне ў палітычным, эканамічным і духоўным жыцці Вялікага Княства.

Павел ЛОЙКА

## Што такое Люблінская ўнія

Люблінская вунія — гэта часовы вайскова-палітычны хаўрус, падпісаны паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам улетку 1569 года на Сойме ў Любліне. Урад Княства, якое ў гэтым часе вяло цяжкую вайну з Масковіяй, мусіў падпісаць ганебнае пагадненне з Польшчаю ўзамен на вайсковую дапамогу.

Заключны Акт Люблінскага Сойму, у аснову якога быў пакладзены праект польскіх паслоў, а не той, што прапаноўвалі дэлегаты Вялікага Княства, прадугледжваў, як таго дамагаліся палякі, зліццё дзвюх дзяржаваў у адзінае цэлае, забараняў правядзенне ў Княстве асобных Соймаў, ліквідоўваў велікакняскі Статут, адмяняў звычайны парадак абрання вялікага князя, дазваляў палякам свабодна набываць землі і даставаць усякія пасады на абшарах Беларускага гаспадарства. Адным словам, «Акт аб вуніі» ў прапанаванай палякамі рэдакцыі рыхтаваў глебу для інкарпарацыі, г. зн. поўнага ўваходжання Вялікага Княства ў склад Польскага Каралеўства.

І хоць нашы паслы змушаныя былі супроць свайго жадання падпісаць гэты акт, мары палякаў засталіся тады няздзейсненымі. Дзякуючы цвёрдай палітычнай лініі найвышэйшых урадоўцаў Княства, найперш Астафея Валовіча, Яна Хадкевіча, Лева Сапегі, аніякага паяднання ў сапраўднасці не адбылося.

У 1576 годзе новы вялікі князь Сцяпан Батура сваім першым Прывілеем ад 8 ліпеня цалкам адмяніў усе пастановы Люблінскага Сойму, што прыніжалі годнасць Беларускага гаспадарства. У гэтым Прывілеі падкрэслівалася поўная незалежнасць Вялікага Княства ад Польшчы, здымаліся абмежаванні з дзейнасці велікакняскага Статута. З загаду С. Батуры была ўтвораная спецыяльная дзяржаўная камісія, якая ўдакладніла межы між дзвюма дзяржавамі. Акрамя таго, праз два гады Вальны Сойм 1578 года зацвердзіў падрыхтаваныя ўрадоўцамі Княства «статутавыя паправы», якія ўзнаўлялі надзвычай важныя нормы дзяржаўнага і судоваправацэсуальнага права, адмененыя Люблінскім Соймам.

У Статуце 1588 года ўжо цалкам гарантавалася абсалютная эканамічная, дзяржаўна-палітычная і культурная незалежнасць Вялікага Княства ад суседніх гаспадарстваў. Усім іншаземцам, у тым ліку палякам, забаранялася набываць (купляць або атрымліваць як узнагароду ад вялікага князя) зямельныя надзелы, замкі ды маёнткі, а гэтаксама свецкія і царкоўныя пасады на ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства. Статус дзяржаўнай юрыдычна замацоўваўся за беларускай мовай.

Як бачна, Вялікае Княства Літоўскае не было зліквідаванае ў 1569 годзе і не перастала існаваць як самастойная дзяржава, хоць таго, вядома, надзвычай хацелася польскім магнатам.

Болей за тое, у перыяд княжання С. Батуры (1576—1586 гады) Вялікае Княства перажыло перыяд новага ўздыму, красамоўнае пацверджанне чаго — пераможнае завяршэнне ў 1582 годзе 20-гадовай Полацка-Інфлянцкай вайны з Масковіяй і вяртанне ўсходніх беларускіх земляў.

Іван САВЕРЧАНКА

*Працяг будзе.*

***Рарытэты***

# Евангелле з Лаўрышава

Рукапісныя кнігі займаюць вялікае месца ў старажытнай беларускай культуры. Кнігапісанне хутка развівалася пасля прыняцця хрысціянства і напачатку цесна звязвалася з патрэбамі царквы. Найчасцей перапісвалася Евангелле, якое было кодэксам хрысціянскага веравучэння і непасрэдна выкарыстоўвалася ў літургіі. Кніга гэтая рыхтавалася заўсёды для пэўнага храма, у якім павінна была захоўвацца «вечне і непорушне» і станавілася, такім чынам, яго гонарам, своеасаблівай яго візітнай карткаю. Таму кожны перапісчык стараўся як мага лепш выканаць замову, кніга прыгожа аздаблялася.

З ранніх рукапісных Евангелляў зберагліся адзінкі: Тураўскае XI ст., Аршанскае XIII ст., Полацкае XIII—XIV стст. Да найбольш старажытных трэба аднесці і Евангелле, спісанае для царквы Лаўрышаўскага манастыра, збудаванага каля 1262 г. паводле загаду наваградскага князя Войшалка. Манастыр стаў неўзабаве значным асяродкам культуры. Тут існавала школа, вёўся, як мяркуюць гісторыкі (У. Пашута, Г. Лаўмянскі, М. Улашчык, М. Ермаловіч), адзін з пачатковых беларускіх летапісаў, працавалі перапісчыкі кніг.

Евангелле, створанае для мясцовай царквы святога Міколы,— найбольш ранняе з вядомых нам аналагічных пісьмовых помнікаў, што ствараліся на Гродзеншчыне (у XV ст. з'яўляюцца Евангеллі Жыровіцкае, Гродзенскае, Ваўкавыскае, Галынкаўскае). Лаўрышаўскае пісана ў пачатку XIV ст., дакладней, каля 1329 г. Упершыню, здаецца, звярнуў увагу на гэтую дату прафесар Варшаўскага універсітэта І. Пярвольф, які характарызуе гэты выдатны помнік культуры ў часопісе «Варшавские университетские известия» ў 1883 г. (пазней — Я. Карскі, П. Уладзіміраў, І. Свянціцкі і інш.). І. Пярвольф акцэнтуе ўвагу на прыпісцы, зробленай у XVI ст., у якой згадваецца наваградскі князь Карыят, магчыма, як заказчык кнігі, і год 1329. Арыенцірам у датаванні часу яе стварэння могуць быць укладныя запісы (традыцыйныя для таго часу пісьмовыя сведчанні на старонках кнігі) пра наданне царкве земляў ці іншай маёмасці. Самы ранні запіс, як мяркуе В. Ластоўскі, трэба датаваць 1350 годам, і зроблены ён Юрыем Балковічам. Значыць, час пісання кнігі можна лічыць адносна ўдакладненым, асабліва, калі браць пад увагу той факт, што такія рукапісы былі вынікам шматгадовай працы.

Лаўрышаўскае Евангелле пісана ўставам на пергаменце царкоўнаславянскаю моваю з прыкметнымі беларускімі асаблівасцямі. Тэкст у кнізе размешчаны ў дзве калонкі, яна мае 374 нумараваныя старонкі і ўяўляе сабою кананічны блок Евангелля, гэтак званае Евангелле тэтр — усе чатыры часткі, прыстасаваныя для літургічнага выкарыстання.

Калі ўлічыць, што Евангелле было рэліквіяй царквы, то будзе зразумелым, што старонкі яго маглі выкарыстоўвацца для практычных, але вельмі высокародных пісьмовых сведчанняў, прыкладам, пра фундацыі гэтаму храму. Такіх сведчанняў у Лаўрышаўскім Евангеллі 14, зроблены яны ў XIV—XVI стст. Змест укладных запісаў сведчыць, што царкве «надаваліся» землі, збожжа, грошы, прыгонныя людзі. Разнастайнасць і багацце ўкладаў гавораць пра самыя шаноўныя адносіны князёў да Лаўрышаўскага храма (разбураны ён быў у сярэдзіне XVII ст.). Укладчыкі фіксуюць назвы тутэйшых мясцін, геаграфічных пунктаў для дакументальнага пацвярджэння сваіх акцый. Называюцца, у прыватнасці, «Турэц» (зараз Карэліцкага раёна) у запісе XIV ст., «Бярозавец», «Нягневічы» (Навагрaдскага раёна) у пазнейшых сведчаннях. Аўтар укладу, гаворачы пра памер і характар дарунку, рэгіструе і сведкаў, часта шматлікіх. Іх імёны — таксама частка старажытнай культуры гэтага рэгіёна. Вось прыклады.

«Се я панъ Олександровичъ Стретовичъ Подскарбий Господаря Великого Короля Казимира записалъ есми съ своего именья з березовца троидцать копъ жита — писанъ у Березовци лета августа 10 индикта 5 р. 6994» (паводле сучаснага вылічэння — 1486 г.).

«Се азъ Панко Обуховичъ Тивуна Унегневицкого сынъ погадавши есми съ своею братиею съ Тивуномъ Негневицкымъ гринемъ а съ братомъ своимъ Михаиломъ и съ детьми своими съ Семеномъ а съ Панкомъ записал есми сеножати около нивы нашея подъ Перевесиемъ — а притом былъ Тивунъ Негневіцкы Гринъ а братъ мой Михайло и дети мои Сенько а Панько а Онтонъ Ефремовичъ а Пани Митковое люди Василь а Степанъ Жибуничь а Ондронь Комаровичъ».

Укладныя запісы ў Евангеллі перамяжаюцца ўстаўкамі, напісанымі па-беларуску, і сціслымі каментарамі XVI—XVII стагоддзяў на беларускай і польскай мовах.

Кніга прыгожа аздоблена, ілюстравана дасканалымі паводле жывапісу 19 мініяцюрамі, якія ўвасабляюць вобразы евангелістаў, сцэны на біблейскія сюжэты. Некаторыя з іх — складаныя шматфігурныя кампазіцыі на ўсю плошчу старонкі, што рэдка практыкавалася ў Евангеллях. Багата аздоблены і ініцыялы, выкананыя ў традыцыйным для таго часу тэраталагічным стылі. Абклад зроблены з дошак, абцягнутых малінавага колеру аксамітам. На верхняй вокладцы — накутнікі з авальным каменем бірузою. Краі накутнікаў, звернутыя да цэнтра, дэкараваныя суцэльным карункавым арнаментам. Цэнтральная частка верхняй вокладкі — гэтак званы сярэднік — пазалочаная, мае форму прамавугольніка, у якім на сярэбранай пласціне выканана выява святога ў рост з дзідаю і шчытом. Гэта ўвасоблены, на думку В. Ластоўскага, вобраз князя Войшалка.

Сярэднік на ніжняй вокладцы — пазалочаны крыж з распяццем. У 1887 г. Лаўрышаўскае Евангелле было рэстаўравана. Зберагаецца яно ў бібліятэцы імя Чартарыйскіх у Кракаве.

Аляксей ПЯТКЕВІЧ.

# «Сочтёмся славою...», альбо Крыху пра міфатворчасць

*Алесь КАЎРУС*

*Заканчэнне. Пачатак на с. 4.*

...такое разуменне супярэчыць праўдзе (групы ж не было) і разам з тым абельвае рэпрэсіўнікаў: хто ж будзе аспрэчваць, што патаемная арганізацыя, якая выступае супраць партыйнай лініі,— шкодная і з ёю трэба бязлітасна змагацца?..

Паўтаруся: групы не было. (Гэта можа пацвердзіць і такі факт: некаторыя «члены» групы Прашковіча не былі нават знаёмыя між сабою або не сустракаліся ў той час). Але пры жаданні яе можна «сканструяваць» і «стварыць», балазе майстроў такой справы ў нас хапае. «Група» спатрэбілася для таго, каб мець «законныя» падставы пакараць іншадумцаў, бо толькі за выказванне поглядаў нават і тады, застойным часам, нібыта не чыніліся ганенні.

Уявіць, як фабрыкавалася «справа» 1974 года, дапамагае артыкул Славаміра Антановіча «Быць ідэйна-свядомымі. Заўвагі на палях стэнаграмы красавіцкага (1974 г.) Пленума ЦК КП Беларусі», надрукаваны ў «ЛіМе» 10 мая 1991 года. У артыкуле, у прыватнасці, адзначаецца: «Першая палавіна 70-х гадоў для Беларусі, як і для суседняй Украіны, была, між іншым, часам палявання на ведзьмаў. Адпаведная служба, абапіраючыся на шырокі ідэалагічны актыў, заўзята шукала, выкрывала, ляпіла ярлыкі і абясшкоджвала «нацыяналістаў», тых, хто быў супраць брэжнеўска-суслаўскіх тэорый паскоранага зліцця нацый і стварэння «новай супольнасці».

Ідэалагічныя службы, афіцыйныя палітызаваныя навукоўцы выдатна разумелі, што выцясняць з ужытку беларускую мову, разбураць нацыянальную культуру можна з большым поспехам, калі давесці «шырокія масы» да стану гістарычнага бяспамяцтва. Праз школу і разгалінаваную сетку прапаганды і агітацыі дзесяцігоддзямі ўбівалі ў галовы дзяцей і дарослых, што ў беларусаў да 1917 года не было дзяржаўнасці, што культурай нас шчодра абдорвалі іншыя народы, што найлепшыя варункі для развіцця беларуская мова атрымала пасля Кастрычніка і г. д.

Няцяжка ўявіць, які грамадскі рэзананс (чытай: палітычную ацэнку) у такіх абставінах выклікалі публікацыі М. Прашковіча (напрыклад, рэцэнзія на кнігу А. Коршунава «Афанасий Филиппович».— «Полымя», 1965), у якіх паказвалася і адкрывалася сучаснікам багатая гістарычная і культурная спадчына беларускага народа.

У 70-я гады публічна ўзнялі карны меч на людзей за тое, што яны не адмовіліся ад натуральнага, Богам дадзенага права гаварыць і пісаць роднай мовай і, як маглі, праз друк, легальна адстойвалі гэтае права, у час інтэнсіўнага «зліцця-злівання» моваў баранілі самабытнасць роднага слова, паказвалі гістарычную правамернасць існавання беларускага народа і яго культуры.

Амаль два дзесяцігоддзі прайшлі з часу тых падзей. А боль яшчэ жыве ў сэрцы іх міжвольнага ўдзельніка і сведкі. Вярэдзіць рану і тое, што сёння знаходзяцца ахвотнікі зарабіць на колішняй «справе» дывідэнды.

Мабыць, пара ўжо гэтай міфатворчасці супрацьпаставіць праўдзівую карціну, стварыць якую дапамагло б сур'ёзнае журналісцкае расследаванне.



З часоў мінулай вайны ў вялікай вёсцы Вялікарыта Маларыцкага раёна не было сваёй царквы, свайго прыходу. Старажытную драўляную спалілі гітлераўцы.
І вось нядаўна сяляне з дапамогай мясцовага калгаса «Рыта» вырашылі адрадзіць божы храм. Ён будуецца на відным месцы, ля ўезду ў вёску і будзе ці не самым прыгожым у раёне. Будаваць яго запрасілі вядомых майстроў гэтай справы з суседняй Валынскай вобласці Украіны, а таксама са Столінскага раёна.

Фота Эдуарда КАБЯКА (БЕЛІНФАРМ).

# Мова — няпісаная канстытуцыя дзяржавы

Адусюль — з тэлеэкранаў, «ад мікрафона», з газетных палос хлынуў паток мутнай, бязграматнай гаворкі. Калі раней гэта было сціплым прывілеем начальства, то цяпер зрабілася вольным набыткам усіх.

Між тым ёсць нейкая таемная сувязь паміж аслабелай граматыкай і нашым бязладным жыццём. Блытаніна ў дапасаваннях частак сказа і жахлівы разброд націскаў сігналізуюць пра некаторую хваравітасць быцця. За дэфектамі сінтаксісу раптам заўважаюцца дэфекты душы.

...Канешне, усё гэта ўскосныя і, здавалася б, не самыя страшныя прыклады «быдлавізацыі» ўсёй краіны. Але пашкоджанні мовы — гэта, акрамя ўсяго іншага, і пашкоджанне жыцця, не здольнага выказаць сябе ў ясных граматычных формах і таму заўсёды гатовага адступіць у зону выпадковага і беззаконнага. Мова — няпісаная канстытуцыя дзяржавы, ігнараванне духу якой вядзе да пагібелі ўсякую (у тым ліку і духоўную) уладу.

*Ігар ВОЛГІН «Адзнака бяздарнасці» («Литературная газета», 25.08.93, № 34).*



## Сідарук-спакуснік

*У Берасцейскім абласным тэатры лялек ідзе падрыхтоўка да прэм'еры спектакля для дарослых «Янка, жонка, а таксама Чорт-спакуснік і секс-крама». Рэжысёр-пастаноўшчык Юры Сарычаў з гэтай п'есай маладога кобрынскага драматурга Ігара Сідарука збіраецца выйсці да гледача ў бліжэйшы час. Цікава, колькі гледачоў заманіць у тэатр спектакль з такой назвай?*

*Вячаслаў МУРЫГІН.*

*Літаратура беларускага замежжа*

# Макданальдзіха ў макасінах, ці Беларусы ў Канадзе

Вітаўт Мартыненка

ТРАДЫЦЫЯ асвятлення літаратуры беларускага замежжа ў нашым друку не такая ўжо даўняя. Ёй усяго пяток гадоў. Менавіта ў 1988 пісьменнік Б. Сачанка апублікаваў артыкул пра культуру беларускага замежжа, выклікаўшы тым самым далейшыя гутаркі і дыскусіі.

Не бяруся рэцэнзаваць той артыкул, бо прыгадаў яго толькі пасля знаёмства з творчасцю аднаго з эміграцкіх празаікаў Кастуся Акулы. І толькі пасля выяўлення неадэкватнасці вядомых ацэнак і таго, што паўстала перада мной.

Трылогія К. Акулы «Гараватка», на думку Б. Сачанкі, «не можа прэтэндаваць на паўнацэннае мастацкае палатно, бо, працуючы над ёй, аўтар, як прызнаўся сам, сустрэўся з невырашальнымі праблемамі — «праблемамі мовы і краіны».

Наўрад ці варта з-за самакрытычнасці аўтара недаацэньваць гэты твор, роўна, як ніхто ж не стаў бы ўзвышаць асобу, якая сама сябе хваліць. Проста ў аўтара родная мова — гэта рана душы. А што да ягонай мовы ў «Гараватцы», дык я больш даваряю тут не ўласнай самакрытычнасці аўтара, а сваёй маці, рабочаму чалавеку, дачцы беларускага селяніна, ацэнкі якой пазбаўлены і прафесійнай субардынацыі, і ўплываў ідэалагізмаў, ды больш набліжаны да натуральнага (не прафесійнага) беларускага жыцця. Чытаючы вышэйназваны раман, яна казала:

— Як ён прыгожа піша. Проста жывыя людзі перад табой. І гавораць, як у нашай вёсцы.

Зрэшты, самакрытыку Кастуся Акулы можна прыняць. Бо няма мяжы самаўдасканаленню. Але чаму тады не прыняць і ягоную крытыку — крытыку мовы тых беларускіх пісьменнікаў, якія не адарваны ад родных вытокаў, але мова іхняя перасыпана гэтымі «рубашкамі», «лапатамі», «белкамі»?.. Бо гэтаму прысвечана значная частка адной з апошніх ягоных кніг «Усякая ўсячына», дзе сабраныя проза, паэзія, драматургія розных гадоў. Тут — асабліва ў вершаваных творах — паўстае збіральны вобраз літаратара, які выклікае заслужанае абурэнне:

Беларусі ты камень надгробны
памагаеш чужым майстраваць.

Праўда, на маю думку, размовы пра Акулу-паэта можа ісці хіба на падставе ранніх твораў, калі аўтару было 18—19 гадоў. Звярніце ўвагу, колькі было ўзвышанасці, лёгкасці, экспрэсіі ў ягоным юнацкім вершы «Вялля», які таксама змешчаны ў гэтым зборніку:

Вецер ціхі, лагодны купаецца ў хвалях,
Махам крылля пяшчотна ласкае іх гладзь,
Косы сонца ў вясновых цудоўных каралях
Рассыпаюцца ў тонь, каб з вадой пагуляць.

Плыве ціха Вялля, поўна велічы, казкі,
Палыскуе блакітам чароўна ў далі,
Вее подыхам лёгкім, чуццём дзіўнай ласкі
Да радзімае маці, крывіцкай зямлі.

Гэты верш выклікае значна шырэйшы спектр эмоцый, чым пазнейшыя паэтычныя творы, дзе стала больш публіцыстыкі, але менш палёту. Ды Акула, зрэшты, і вядомы больш як празаік і публіцыст.

Скажам, ягоны нарыс «Дэманстрацыя на Экспо-67» чытаецца, як захапляючы дэтэктыў, што апісвае прыгоды чалавека, эмігранта, сэнс жыцця якога ў гучным імені ягонай радзімы. Тут і гумар, і інтрыга, і самаіронія... Тут і таямнічыя планы, і паліцыя...

Як вы мяркуеце, ці было б вясёлым апісанне затрымкі якогасьці рабаўніка, тарбахвата ў паліцыі? Наўрад. А калі герой К. Акулы трапляе ў паліцыю, чытач разумее і тых, хто затрымаў, і таго, каго затрымалі. А затрымалі чалавека за парушэнне парадку — ён раскідваў буклеты пра Беларусь у час нейкай міжнароднай выставы без упаўнаважання на тое. Яму галоўнае, што было многа народу, ім галоўнае, што гэта не прадугледжвалася ў праграме.

Хто б ні былі героі твораў Кастуся Акулы — канкрэтныя асобы ці мастацкія персанажы, куды б яны ні траплялі, усюды яны выяўляюць свае адносіны да Беларусі, сваёй радзімы, бо гэтай ідэяй захоплены аўтар, захапляючы ёй і чытача. Ідэяй, якая не прымае нацыянальнай абыякавасці, нігілізму. Ды ці можа прэтэндаваць прынамсі на аб'ектыўнасць мастацкі твор, які ігнаруе тую ж нацыянальную ідэю, калі ўсё жыццё на планеце ёсць комплекс узаемадзеяння мноства нацыянальных субстанцый? І не абавязкова ствараць «агіткі за нацыянальную свядомасць», трэба проста бачыць свет адкрытымі вачыма. Як у Акулы, дзе ёсць і Язэп Сыты (нарыс «Дзе жыве Беларусь») з ягоным непрыхаваным пачуццём мешчаніна («Што вы тутака такія, як ты й Гутырчык, Беларусь збудуеце?»), але ёсць і Алесь Качан (аповесць «Россыпы»), які, жывучы сярод «тутэйшых рускай веры» і «тутэйшых польскай веры», цвёрда ўсведамляў сябе беларусам і дакладна асэнсоўваў сваю радзіму — Беларусь.

Але не трэба думаць, што творы Кастуся Акулы толькі і прысвечаны, што пытанням нацыянальнай свядомасці. Скажам, тыя ж «Россыпы» я параўнаў бы з «Вітражамі» Янкі Брыля ці «Сямейнай хронікай» Сяргея Аксакава. Гэтыя, як пазначана ў падзагалоўку, «аўтабіяграфічныя згадкі» — надзвычай кранальныя настальгічныя ўспаміны пра беззваротнае ў жыцці кожнага чалавека, галоўным чынам — пра дзяцінства.

Кожны по-свойму пазнае свет. Але кожны — з пакутамі.

Кажуць (ці раней казалі), што ўся эміграцкая літаратура — настальгічная. Мауляў, толькі тым і жыве, што былым. Прыводзяць у прыклад Буніна, які, дажыўшы ў Францыі да 1953 года, так і застаўся рускім дарэвалюцыйным пісьменнікам. Прыводзяць у прыклад процьму іншых, талент якіх «згас на чужыне».

Зразумела, сэнс тут ёсць. Толькі не апрыёрны. І «Усякая ўсячына»— добрае таму сведчанне. Аповесць «Запіскі Яўхіма Крайняга», камедыя «Тараканы ў саладусе», фельетон «Сходзіны», шэраг іншых твораў крыніцай натхнення і тэмай сваёй маюць беларускае жыццё ў Канадзе. Гэта нешта дзіўнае для нашай літаратуры, невядомае, уражваючае:

«Спадар Кірпач меў вялікага ваўчара, а пан Маньўскі такога самага. Спаткаліся і знюхаліся гэтыя сабакі на дарозе, а пасля пазналіся і гаспадары іхнія. Кірпач назваў свайго Гіль, каб адмыслова па-беларуску і па-канадыйску пасавала...

...І кажа тады ён прэзідэнту гэтай акадэміі:

— Ты глядзі, каб мой сабака Беларусам, а не Канадыйцам быў. Той кажа:

— Ес, сэр. Чаму ж не. Абы грошы.

— Як будзеш вучыць яго скакаць, дык крычы — гоп!— чуеш?

А той кажа:— І *h*ope, і *h*ope. (Я разумею)».

Нязвыклае і ўражваючае ўжо само тое, што сярод персанажаў замест якойсьці Сцяпаніхі або Іванаўкі раптам усплывае Макданальдзіха, альбо якісьці Янка спыняе свой «Форд» ля хаты якогасьці Джонсана, калі той выходзіць на ганак у «індыянскіх лапцях, званых тут макасінамі».

Бадай, і ў гэтым — непаўторнасць творчасці пісьменніка ў структуры беларускай літаратуры: у неверагодным перапляценні звыклага і экзатычнага.

Што да суб'ектыўных уражанняў ад знаёмства з творчасцю гэтага аўтара, дык я вынес пачуццё неадэкватнасці таго, што чытаў з ягоных твораў, і таго, што даводзілася чытаць пра яго. Спачатку было ўражанне, што гэта нейкі фанатык-нацыяналіст з цьмяным мінулым і графаманскім сучасным. Аднак ледзь яго творы сталі даступнымі ў Беларусі (яны ёсць у акадэмічных бібліятэках, літмузеях, рыхтуюцца перавыданні ў нашых выдавецтвах), аказалася, што гэта вартасны літаратар са сваёй ідэяй, ясным стылем, цвярозым разуменнем. Недарэмна Барыс Сачанка з эміграцыйнай прозы перш за ўсё вылучае яго і Масея Сяднёва. Мяркую, калі ў нас адродзіцца нармальнае нацыянальнае жыццё і ў школах ды інстытутах мы будзем належна вывучаць сваю спадчыну, творчасць многіх беларускіх замежных пісьменнікаў (у тым ліку і К. Акулы) таксама не будзе па-за ўвагай адукацыйнай праграмы.

## Брэсцкія «Пеўнікі»



У святах песні ў Кіеве, Пскове, Санкт-Пецярбургу бралі ўдзел гэтыя цудоўныя хлапчукі з узорнага дзіцячага народнага хору «Пеўнікі». Створаны ён пры Брэсцкім гарадскім Доме культуры. У рэпертуары калектыву як складанейшыя творы кампазітараў-класікаў, так і беларускія народныя песні. «Пеўнікі» гастралявалі па многіх гарадах суседняй Польшчы.

Больш за 15 год, з дня стварэння калектыву, кіруе хорам Алег Яўгенавіч Нярода (на здымку), аддаючы хлапчукам не толькі веды, але і цеплыню душы.

Фота Эдуарда КАБЯКА.
Белінфарм.

*Але!*

## Пытанне для эрудытаў

Колькі памылак можна зрабіць у слове з дзвюх літар? Мяркуючы па загалоўку, адказ не такі ўжо і просты. Палічым. Вось, прыкладам, пазначэнне *кюры* — вядомай на Беларусі адзінкі велічыні актыўнасці радыёнукліда. Міжнародны яе сімвал — *Ci*, расійскі — *Ки*, а беларускі? Яго пішуць неаднолькава. У «Народнай газеце» 3 жніўня на другой старонцы напісалі *Кі*.

Таму што абазначэнне ўтворана ад прозвішча, то і расійцы, і тыя, хто карыстаецца лацініцай, пішуць яго з прапісной літары — гэта першае. Другая літара абазначэння таксама ўваходзіць у склад прозвішча як у расійскім яго напісанні, так і ў напісанні па-лаціне. Але ў напісанні прозвішча па-беларуску такой літары няма. Гэта другое.

Але ёсць яшчэ і трэцяе. Выяўляецца, што з 1 студзеня 1980 г. гэтая пазасістэмная адзінка была выключана з выкарыстання і заменена адзінкай *Si (СИ)* пад назвай *бекерэль*. Але з 1986 г., з часу чарнобыльскай трагедыі, мы ведаем толькі *кюры* і амаль не чулі пра *бекерэль*.

Вось яшчэ адно пытанне — чаму? Чаму ўлады СССР асвядомілі нас пра *кюры*, але, парушаючы ГОСТ, забыліся пра *бекерэль?* Бяспамяцтва стане зразумелым, калі параўнаць гэтыя дзве адзінкі. Што прасцей было сказаць народу — 1 кюры ці 37 000 000 000 бекерэляў?..

Спадзяюся, што на Беларусі будуць паважаць і чужых вучоных і свой народ.

І. ЧУМАК.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**15 ВЕРАСНЯ, СЕРАДА**

15.30, Голас дзяцінства. III Міжнародны фестываль дзіцячай творчасці ў Менску.
17.30. Навіны.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Навошта дадзена ўлада?
21.00. Панарама.
22.15. Палітычны калейдаскоп. Прымаюць удзел народныя дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі.
23.00. НІКа.

**16 ВЕРАСНЯ, ЧАЦВЕР**

13.30. Навіны.
16.50. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. «Маё сэрца поўна любасці» (творчасць У. Жылкі).
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.40. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
21.00. Панарама.
22.15. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
23.50. НІКа.

**17 ВЕРАСНЯ, ПЯТНІЦА**

13.30. Навіны.
16.15. «Госціца» ў Выбаргу. Пра ўдзел беларускіх дзяцей у Міжнародным фестывалі.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.50. Студыя «Летапіс» прадстаўляе: «Кірыла Тураўскі», «Да добрага навучання», «Іван Насовіч».
21.00. Панарама.
23.40. НІКа.

**18 ВЕРАСНЯ, СУБОТА**

10.00. Паказвае Брэст. Мастацка-публіцыстычная праграма.
11.00. Тыдзень планеты. Міжнародны агляд.
12.05. ТА «Рэха». 20 хвілін рэдактара.
15.05. Памяці П. Багрыма. Свята на радзіме паэта ў Крошыне.
16.15. Скарб-93. Фестываль талентаў.
21.00. Панарама.
23.15. НІКа.

**19 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

19.05. Жыццё з песняй. Сямейны ансамбль Сурма - чэўскіх з вёскі Лучнікі Слуцкага раёна.
20.00. Панарама.
22.55. «Каскад». Кантакт. Інфармацыя. Рэклама.

**Шаноўныя чытачы!**

**Просім не адкладваць з афармленнем падпіскі на «Наша слова» — 1994.**

**Рэдакцыя рыхтуе новыя рубрыкі, панаўляе традыцыйныя. Па Вашых прапановах больш удзелім месца перакладам вострасюжэтных літаратурных твораў.**

**Рыхтуем слоўнікі, размоўнікі, парады спецыялістаў і многае іншае.**

**Умовы ў каталогу.**

**Наш падпісны індэкс 63 865.**

## Беларусістыка ў зборах калекцыянераў

Алесь Сярожкін нарадзіўся на Магілёўшчыне. У Касцюковічах. Шмат гадоў жыў па-за межамі Беларусі. Працаваў на Поўначы. У 1981 годзе вярнуўся на Бацькаўшчыну. Зараз жыве ў Оршы, працуе цесляром. А ў вольны час рэдагуе газету «Беларускі калекцыянер». Яна выходзіць невялікім накладам з 1990 года. І хоць выпушчана ўсяго сем нумароў, і, відаць, мала хто паспеў пазнаёміцца з гэтай газетай, мы спадзяёмся, што чытачам «Нашага слова» будзе цікава сустрэцца з рэдактарам «Беларускага калекцыянера».

**— Алесь, як і з чаго ў Вас узнікла ідэя выдання «Беларускага калекцыянера»?**

— У 1986 годзе я ўзначаліў гісторыка-культурны клуб «Повязь». Пасля стаў сябрам аршанскай рады БНФ. Але надышоў час, калі адна палітычная дзейнасць перастала мяне задавальняць. Таму і вырашыў дадаткова заняцца справай, якая таксама прыносіла б карысць беларускаму Адраджэнню. У красавіку 1990 года я наважыўся выпускаць газету. Канкрэтным штуршком да выдання «Беларускага калекцыянера» было выступленне ў беларускай праграме радыёстанцыі «Свабода» Язэпа Барэйкі.

**— У чым Вы бачыце галоўны накірунак газеты?**

— Галоўная мэта — павярнуць як мага больш калекцыянераў нашай рэспублікі тварам да беларушчыны. Мы імкнемся зацікавіць чытачоў гісторыяй і культурай Беларусі. А яшчэ — падрыхтаваць глебу для стварэння Беларускага таварыства калекцыяенераў.

**— А як раскупляецца газета?**

— Нельга сказаць, што імгненна, але раскупляецца. Прынамсі, папярэдніх нумароў ужо не засталося. У яе распаўсюджванні дапамагае нам і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

**— Хто складае аўтарскі актыў «Беларускага калекцыянера»?**

— У нас ёсць пастаянныя аўтары. Найперш гэта вядомы менскі філатэліст Леў Коласаў, нумізмат Міхась Вераціла. Даволі часта дасылаюць артыкулы калекцыянеры іншых дзяржаў.

**— У якіх краінах свету Вы ўжо маеце сваіх падпісчыкаў?**

— Асноўны замежны падпісчык — беларусы-эмігранты. Напрыклад, Багдан Павук з Чыкага, шмат хто іншы. А Вітаўт Кіпель, у прыватнасці, падтрымаў нас матэрыяльна, ахвяраваўшы на выданне газеты 50 долараў.

**— Ці маеце Вы інфармацыю пра выданні, падобныя «Беларускаму калекцыянеру, у іншых рэгіёнах СНД?**

— У Латвіі выходзіць газета «Калекцыянер Латвіі». У Эстоніі — цудоўны часопіс «Эстонскі калекцыянер» і асобны часопіс для філатэлістаў. Літва таксама выдае свой часопіс для калекцыянераў. Украіна — філатэлістычны часопіс. Усюды праяўляецца заклапочанасць у стварэнні перыёдыкі для калекцыянераў, толькі не на Беларусі. Нашы ўлады нібыта не разумеюць, што рух калекцыянераў садзейнічае ўмацаванню ідэй нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту.

**— Алесь, калі Вы асабіста «нарадзіліся» як калекцыянер?**

— Жывучы ў Ленінградзе, з пятнаццаці гадоў я пачаў збіраць беларускія значкі. Зараз, акрамя значкоў, цікаўлюся беларускімі бонамі, латарэйнымі квіткамі, манетамі, паштовымі маркамі.

**— Дзякую, спадар Алесь, за размову. Поспехаў вам і «Беларускаму калекцыянеру»!**

Гутарыў
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

**24—25 верасня Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут праводзяць у Брэсце рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю «Нацыянальная адукацыя і пытанні беларускамоўнага выкладання гуманітарных і прыродазнаўчых дысцыплін».**

**Мэта канферэнцыі — падагуліць назапашаны вопыт выкладання па-беларуску розных дысцыплін у ВНУ рэспублікі: азнаёміць з беларускамоўнымі вучэбна-метадычнымі дапаможнікамі і распрацоўкамі, новымі рускабеларускімі тлумачальнымі слоўнікамі, камп'ютэрнымі беларускамоўнымі праграмамі па адпаведных прадметах.**

**Рэгістрацыя ўдзельнікаў і выдача накіравання ў гасцініцы г. Брэста — 23 верасня з 7 да 24 гадзін у аўд. 121, корп. 2 педінстытута (вул. Міцкевіча, 28).**

**Тэлефоны для даведак: (код г. Брэста 8-01622) 3-33-44 (Уладзімір Анесціевіч Плецюхоў), 3-33-42 (Станіслаў Рыгоравіч Рачэўскі), 3-23-30 (Сяргей Анатольевіч Яцкевіч).**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 288.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7226 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 13.09.1993 г. у 15 гадзін.